ЖЫКЛЕР - калібраваная адтуліна ў дэталі, якая дазіруе расход вадкасці або газу. Прымяняецца ў карбюратары для падачы паліва ў змешвальную камеру для падрыхтоўкі рабочай сумесі.

ЗАГЛУШКА - деталь, герметически закрывающая внутренние полости конструкций.
ЗАГЛУШКА - дэталь, якая герметычна закрывае ўнутраныя поласці канструкцый.

ЗАДВИЖКА - запорное устройство для отключения какой-либо магистрали (водяной, паровой).
ЗАСАЎКА - запорнае ўстройства для адключэння якой-небудзь магістралі (вадзяной, паравой).

ЗАДНИЙ МОСТ - комплекс узлов или отдельный агрегат шасси самоходных машин, служащий опорой задней части машины и обычно передающий крутящий момент от карданного вала или непосредственно от коробки передач к движителю.
ЗАДНІ МОСТ - комплекс вузлоў або асобны агрэгат шасі самаходных машын, які служыць апорай задняй часткі машыны і звычайна перадае вярчальны момант ад карданнага вала або непасрэдна ад каробкі перадач да рухача.

ЗАЖИГАНИЕ В ДВИГАТЕЛЕ ВНУТРЕННЕГО СГОРАНИЯ - воспламенение рабочей смеси в цилиндрах двигателей. Производится электрической искрой от свечи зажигания.
ЗАПАЛЬВАННЕ Ў РУХАВІКУ ЎНУТРАНАГА ЗГАРАННЯ - загаранне рабочай сумесі ў цыліндрах рухавікоў. Выконваецца электрычнай іскрой ад запальнай свечкі.

ЗАЗОР В МАШИНОСТРОЕНИИ - расстояние между двумя поверхностями сопряженных деталей машин; определяется как разность внутреннего размера охватывающей детали и наружного размера охватываемой детали.
ЗАЗОР У МАШЫНАБУДАВАННІ - адлегласць паміж дзвюма паверхнямі спалучаных дэталяў машын; вызначаецца як рознасць унутранага памеру ахоплівапчай дэталі і вонкавага памеру ахопленай дэталі.

ЗАКЛЕПКА - крепежная деталь, состоящая из стержня и головки.
ЗАКЛЁПКА - крапежная дэталь, якая складаецца са шпеня і галоўкі.

ЗАКЛЕПОЧНОЕ СОЕДИНЕНИЕ - неразъемное соединение деталей при помощи заклепок.
ЗАКЛЁПАЧНАЕ ЗЛУЧЭННЕ - нераз"емнае злучэнне дэталяў пры дапамозе заклёпак.

ЗАПАЛЬНАЯ СВЕЧА - то же, что свеча зажигания.
ЗАПАЛЬНАЯ СВЕЧКА - тое ж, што свечка запальвання.

ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ - детали, сборочные единицы и агрегаты машин, предназначенные для замены вышедших из строя в процессе эксплуатации.
ЗАПАСНЫЯ ЧАСТКІ - дэталі, зборачныя адзінкі і агрэгаты машын, якія выкарыстоўваюцца для замены выбыўшых з ужытку ў працэсе эксплуатацыі.



ЗАРЯДНАЯ СТАНЦИЯ - установка для зарядки электрических аккумуляторов.
ЗАРАДНАЯ СТАНЦЫЯ - устаноўка для зарадкі электрычных акумулятараў.

ЗАСЛОНКА - приспособление, изменяющее площадь сечения канала и таким образом регулирующее массу и объем проходящего по нему газа, жидкости или сыпучих материалов.
ЗАСЛАНКА - прыстасаванне, якое мяняе плошчу сячэння канала і такім чынам рэгулюе масу і аб"ём газу, вадкасці або сыпучых матэрыялаў, што праходзяць па ім.

ЗЕМЛЕРОЙНЫЕ МАШИНЫ - машины для земляных работ при возведении зданий, прокладке подземных коммуникаций, на гидротехнических, мелиорационных и ирригационных работах.
ЗЕМЛЯРЫЙНЫЯ МАШЫНЫ - машыны для земляных работ пры ўзвядзенні будынкаў, пракладцы падземных камунікацый, на гідратэхнічных, меліярацыйных і ірыгацыйных работах.

ЗЕРНОВАЯ СЕЯЛКА ( СЗ-3, СЗПЦ-12 ) - с.-х. машина для посева семян зерновых и зернобобовых культур, а также других культур, близких к зерновым по размерам семян и нормам высева.
ЗБОЖЖАВАЯ СЕЯЛКА - сельскагаспадарчая машына для высявання насення збожжавых і зернебабовых культур, а таксама іншых культур, блізкіх да збожжавых па памерах насення і нормах высеву.

ЗЕРНООЧИСТИТЕЛЬНАЯ МАШИНА (СМ-4, МС-4,5) - с.-х. машина для очистки и сортирования зерна по различным признакам: аэродинамическим свойствам семян и примесей; размерам зерен - толщине, ширине и длине; шероховатости поверхности семян; форме и др.
ЗЕРНЕАЧЫШЧАЛЬНАЯ МАШЫНА (СМ-4, МС-4,5) - сельскагаспадарчая машына для ачысткі і сартавання збожжавай сумесі па розных адзнаках: аэрадынамічных уласцівасцях насення і прымесей; памерах зерня - таўшчыні, шырыні і даўжыні; шурпатасці паверхні насення; форме і інш.

ЗЕРНООЧИСТИТЕЛЬНЫЙ-СУШИЛЬНЫЙ КОМПЛЕКС (КЗС-25Б) - предприятие для послеуборочной очистки и сушки зерна в колхозах и совхозах.
ЗЕРНЕАЧЫШЧАЛЬНА-СУШЫЛЬНЫ КОМПЛЕКС - прадпрыемства для пасляўборачнай ачысткі і сушкі зерня ў калгасах і саўгасах.

ЗЕРНОПОГРУЗЧИК - с.-х. машина непрерывного действия для погрузки зерна из буртов в транспортное средство, формирования и перелопачивания буртов, загрузки зерноочистительных машин, зерносушилок и зернохранилищ.
ЗБОЖЖАПАГРУЗЧЫК - с.-г. машына бесперапыннага дзеяння для пагрузкі збожжа з буртоў у транспартны сродак, для фарміравання і пералапачвання буртоў, загрузкі зернеачышчальных машын, зернесушылак і збожжасховішчаў.

ЗЕРНОПУЛЬТ-ЗЕРНОПОГРУЗЧИК - с.-х. машина для перелопачивания зерна, загрузки его в транспортное средство, формирования буртов из куч зерна.

ЗБОЖЖАПУЛЬТ-ЗБОЖЖАПАГРУЗЧЫК - с.-г. машына для пералапачвання збожжа, загрузкі яго ў транспартны сродак, фарміравання буртоў з куч збожжа.

ЗЕРНОСУШИЛКА (СЗСБ-8А) - с.-х. машина для сушки зерна, семян, трав, клеверной пыжины, семян овощных культур.
ЗЕРНЕСУШЫЛКА (СЗСБ-8А) - с.-г. машына для сушкі зерня, насення траў, канюшыннай пыжыны, насення гародніны.

ЗЕРНО-ТРАВЯНАЯ СЕЯЛКА (СЗТ-3,6а) - см. КОМБИНИРОВАННАЯ СЕЯЛКА.
ЗЕРНЕ-ТУКАВАЯ СЕЯЛКА (СЗ-3,6а) - гл. КАМБІНАВАНАЯ СЕЯЛКА.

ЗЕРНОУБОРОЧНЫЙ КОМБАЙН (СК-5М"НИВА", "ДОН-1500") - с.-х. машина, предназначенная для уборки зерновых колосовых культур прямым комбайнированием для подбора и обмолота хлебной массы из валков.
ЗБОЖЖАЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН (СК-5М"НІВА", "ДОН-1500") - с.-г. машына, прызначаная для ўборкі збожжавых каласавых культур прамым камбайнаваннем для падбору сцяблоў збожжавых раслін з валкоў і іх абмалоту.

ЗОЛОТНИК - подвижной элемент системы управления каким-либо процессом, направляющий поток рабочей жидкости или газа в нужный канал путем своего смещения относительно окон в поверхности, по которой он скользит. Применяют в гидросистемах тракторов и самоходных машин.
ЗАЛАТНІК - рухомы элемент сістэмы кіравання якім-небудзь працэсам, які напраўляе паток рабочай вадкасці або газу ў патрэбны канал шляхам свайго перамяшчэння адносна вокнаў у паверхні, на якой ён рухаецца. Прымяняюць у гідрасістэмах трактароў і самаходных машын.

ЗУБЧАТАЯ МУФТА - муфта приводов, предназначенная для соединения валов с небольшими взаимными перекосами (до 1,5), смещениями, вызванными неточностями изготовления, монтажа и упругими деформациями валов.
ЗУБЧАСТАЯ МУФТА - муфта прывадоў, прызначаная для злучэння валоў з невялікімі ўзаемнымі перакосамі (да 1,5), ссоўваннямі, якія выкліканы недакладнасцямі вырабу, мантажу і пругкімі дэфармацыямі валоў.

ЗУБЧАТАЯ ПЕРЕДАЧА - механизм для передачи вращательного движения между валами и изменения частоты вращения, состоящий из зубчатых колес (либо из зубчатого колеса и рейки) или из червяка и червячного колеса.
ЗУБЧАСТАЯ ПЕРАДАЧА - механізм для перадачы вярчальнага руху паміж валамі і змянення частаты вярчэння, які складаецца з зубчастых колаў (ці з зубчастага кола і рэйкі) або з чарвяка і чарвячнага кола.

ЗУБЧАТОЕ ЗАЦЕПЛЕНИЕ - взаимодействие двух зубчатых звеньев (колес, реек), зубья которых при последовательном соприкосновении между собой передают заданное движение от одного звена к другому.
ЗУБЧАСТАЕ ЗАЧЭПЛІВАННЕ - узаемадзеянне двух зубчастых звенняў (колаў, рэек), зубы якіх пры паслядоўным судакрананні паміж сабой перадаюць зададзены рух ад аднаго звяна да другога.

ЗУБЧАТОЕ КОЛЕСО - звено зубчатого механизма, обеспечивающее движение другого звена (колеса, червяка, рейки).



ЗУБЧАСТАЕ КОЛА - звяно зубчастага механізма, якое забяспечвае рух іншага звяна (кола, чарвяка, рэйкі).

ИГОЛЬЧАТЫЙ ПОДШИПНИК - роликовый подшипник, в котором телами качения являются иглы.
ІГОЛЬЧАСТЫ ПАДШЫПНІК - ролікавы падшыпнік, у якім целамі качэння з"яўляюцца іголкі.

ИЗГИБ - вид деформации, характеризующийся искривлением оси или срединной поверхности деформируемого об"екта (балки, вала).
ВЫГІБ - від дэфармацыі, які характарызуецца скрыўленнем восі або пасярэдняй паверхні дэфармаванага аб"екта (балкі, вала).

ИЗМЕЛЬЧЕНИЕ - тонкое дробление какого-либо твердого вещества (трав, соломы, зерна).
ДРАБНЕННЕ - тонкае драбленне якога-небудзь цвёрдага рэчыва (траў, саломы, зерня).

ИЗМЕРИТЕЛЬНЫЙ ПРИБОР - средство измерений для выработки сигнала измерительной информации в форме, доступной для непосредственного восприятия наблюдателем.
ВЫМЯРАЛЬНЫ ПРЫБОР - сродак вымярэння для выпрацоўкі сігнала вымяральнай інфармацыі ў даступнай для непасрэднага ўспрымання назіральнікам форме.

ИЗНОС - изменение размеров, формы, массы или состояния поверхности изделия вследствие разрушения (изнашивания) его поверхностного слоя при трении.
ЗНОС - змяненне памераў, формы, масы або стану паверхні вырабу ў выніку разбурэння (зношанасці) яго паверхневага слоя пры трэнні.

ИЗНОСОСТОЙКОСТЬ - сопротивление деталей машин изнашиванию.
ЗНОСАСТОЙКАСЦЬ - супраціўленне дэталяў машын знашванню.

ИЗОБРЕТЕНИЕ - новое и обладающее существенными отличиями техническое решение задачи в любой области народного хозяйства, дающее положительный эффект. Изобретение защищается авторским свидетельством или патентом.
ВЫНАХОДНІЦТВА - новае тэхнічнае рашэнне задачы ў любой галіне народнай гаспадаркі, якое мае істотныя адрозненні і дае дадатны эфект. Вынаходніцтва абараняецца аўтарскім пасведчаннем або патэнтам.

ИЗОТЕРМИЧЕСКИЙ АВТОМОБИЛЬ - автомобиль, кузов которого снабжен слоем изоляционных материалов, ограничивающих теплообмен между внутренней и наружной поверхностями.
ІЗАТЭРМІЧНЫ АЎТАМАБІЛЬ - аўтамабіль, кузаў якога забяспечаны слоем ізаляцыйных матэрыялаў, якія абмяжоўваюць цеплаабмен паміж унутранай і вонкавай паверхнямі.

ИНДУКТИВНЫЙ ДАТЧИК - измерительный преобразователь линейного перемещения или угла поворота (вала) в изменение индуктивности.
ІНДУКЦЫЙНЫ ДАТЧЫК - вымяральны пераўтваральнік лінейнага перамяшчэння або вугла павароту (вала) у змяненне індукцыйнасці.

ИНДУКЦИОННАЯ КАТУШКА - прибор батарейного зажигания для двигателей внутреннего сгорания, трансформирующий ток низкого напряжения аккумулятора (12В) в ток высокого напряжения (30кВ). Иногда её называют бобиной.

ІНДУКЦЫЙНАЯ ШПУЛЯ - прыбор батарэйнага запальвання для рухавікоў унутранага згарання, які трансфармуе ток нізкага напружання акумулятара (12В) у ток высокага напружання (30кВ). Часам яе называюць бабінай.

ИНДУСТРИАЛИЗАЦИЯ - процесс создания крупного машинного производства во всех отраслях народного хозяйства, что приводит к резкому повышению технической вооруженности труда и росту его производительности.

ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ - працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, што прыводзіць да рэзкага павышэння тэхнічнай узброенасці працы і росту яе прадукцыйнасці.

ИНЕРЦИЯ - свойство тел при отсутствии внешних воздействий (или при воздействиях, взаимно уравновешивающих друг друга) сохранять неизменным состояние своего движения, а при внешних силовых воздействиях изменять движение лишь постепенно, т.е. приобретать конечные ускорения.

ІНЕРЦЫЯ - уласцівасць целаў пры адсутнасці вонкавых уздзеянняў (або пры ўздзеяннях, якія ўзаемна ўраўнаважваюць адно аднаго) захоўваць нязменным стан свайго руху, а пры вонкавых сілавых уздзеяннях змяняць рух толькі паступова, г.зн. набываць канечныя паскарэнні.

ИНЖЕКТОР - см. СТРУЙНЫЙ НАСОС.

ІНЖЭКТАР - гл. СТРУМЕННАЯ ПОМПА.

ИНЖЕНЕРНАЯ ПСИХОЛОГИЯ - научное направление, изучающее проблемы, которые возникают в сложных системах управления класса "человек – машина".

ІНЖЫНЕРНАЯ ПСІХАЛОГІЯ - навуковы напрамак, які вывучае праблемы, што ўзнікаюць у складаных сістэмах кіравання класа "чалавек-машына".

ИНСЕКТИЦИДЫ - химические средства для уничтожения насекомых вредителей растений, переносчиков инфекций, вредителей продуктов и материалов.

ІНСЕКТЫЦЫДЫ - хімічныя сродкі для знішчэння насякомых шкоднікаў раслін, пераносчыкаў інфекцый, шкоднікаў прадуктаў і матэрыялаў.

ИНСТРУМЕНТ - в широком смысле слова - орудие для работы. Бывает металлорежущий, слесарный, кузнечный; ручной, станочный, механизированный.

ІНСТРУМЕНТ - у шырокім сэнсе слова - прылада для працы. Бывае металарэжучы, слясарны, кузнечны; ручны, станочны, механізаваны.

ИНТЕНСИВНОСТЬ ОТКАЗОВ - показатель надежности машин, численно равный вероятности отказа изделия в единицу времени, начиная с некоторого момента при условии, что до этого отказа не было.

ІНТЭНСІЎНАСЦЬ ПСАВАННЯЎ - паказчык надзейнасці машын, колькасна роўны імавернасці псавання вырабу за адзінку часу, пачынаючы з нейкага моманту пры ўмове, што да гэтага псавання не было.

ИРРИГАЦИЯ - то же, что ОРОШЕНИЕ.

ІРЫГАЦЫЯ - тое ж, што АРАШЭННЕ.



ИСПАРЕНИЕ - переход вещества из жидкого или твердого состояния в газообразное (пар).

ВЫПАРЭННЕ - пераход рэчыва з вадкага або цвёрдага стану ў газападобны (пару).

ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ МЕХАНИЗМ - 1. механизм, выполняющий непосредственно требуемую технологическую операцию; 2. устройство системы автоматического регулирования, осуществляющее в соответствии с поступающими на его вход сигналами механическое воздействие на объект регулирования.

ВЫКОНВАЮЧЫ МЕХАНІЗМ - 1. механізм, які выконвае тэхналагічную аперацыю, што непасрэдна патрабуецца; 2. устройства сістэмы аўтаматычнага рэгулявання, якое выконвае механічнае ўздзеянне на аб"ект рэгулявання ў адпаведнасці з сігналамі, што паступаюць на яго ўваход.

ИСПЫТАНИЯ МАШИН - экспериментальное определение количественных и качественных характеристик свойств машин для выявления их соответствия техническим требованиям или для опытного изучения процессов, происходящих в машинах.

ВЫПРАБАВАННЕ МАШЫН - эксперыментальнае вызначэнне колькасных і якасных характарыстык уласцівасцей машын для выяўлення іх адпаведнасці тэхнічным патрабаванням або для доследнага вывучэння працэсаў, якія адбываюцца ў машынах.

ИСТОЧНИКИ ЭЛЕКТРИЧЕСКОЙ ЭНЕРГИИ - устройства, преобразующие различные виды энергии в электрическую.

КРЫНІЦЫ ЭЛЕКТРЫЧНАЙ ЭНЕРГІІ - прыборы, якія пераўтвараюць розныя віды энергіі ў электрычную.

КАБЕЛЬ - один или несколько изолированных проводников (токопроводящих жил), заключенных в герметичную оболочку, поверх которой, как правило, накладываются защитные покровы. Применяют для передачи на расстояние электрической энергии (силовой кабель) или сигналов (кабель связи).

КАБЕЛЬ - адзін або некалькі ізаляваных праваднікоў (токаправодзячых жыл), змешчаных у герметычную абалонку, паверх якой, як правіла, накладаецца засцерагальнае покрыва. Прымяняюць для перадачы на адлегласць электрычнай энергіі (сілавы кабель) або сігналаў (кабель сувязі).

КАЗ - марка седельных тягачей (КАЗ-608В), выпускаемых Кутаисским автомобильным заводом с 1967 года. На тягачах КАЗ установлена откидывающаяся вперед кабина, расположенная над двигателем.

КАЗ - марка сядзельных цягачоў, якія выпускаюцца Кутаіскім аўтамабільным заводам з 1967 года. На цягачах КАЗ устаноўлена размешчаная над рухавіком кабіна, якая адкідваецца ўперад.

КАЛИБРОВАНИЕ - распределение по размерам семян различных сельскохозяйственных культур на фракции.

КАЛІБРАВАННЕ - размеркаванне па памерах насення розных сельскагаспадарчых раслін на фракцыі.

КАЛОРИФЕР - прибор для нагревания воздуха в системах воздушного отопления, вентиляции и сушки.

КАЛАРЫФЕР - прыбор для награвання паветра ў сістэмах паветранага ацяплення, вентыляцыі і сушкі.

КАМАЗ - марка грузовых автомобилей, выпускаемых Камским объединением по производству большегрузных автомобилей с 1976 года.
КАМАЗ - марка грузавых аўтамабіляў, якія выпускаюцца Камскім аб"яднаннем па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў з 1976 года.

КАМЕРА СГОРАНИЯ - замкнутое пространство для сжигания газообразного, жидкого или твердого топлива.
КАМЕРА ЗГАРАННЯ - замкнёная прастора для спальвання газападобнага, вадкага або цвёрдага паліва.

КАМЕРА СЖАТИЯ - минимальный объем надпоршневого или межпоршневого пространства цилиндра двигателя внутреннего сгорания или компрессора.
КАМЕРА СЦІСКАННЯ - мінімальны аб"ём надпоршневай або міжпоршневай прасторы цыліндра рухавіка ўнутранага згарання або кампрэсара.
КАМНЕУБОРОЧНЫЕ МАШИНЫ - машины для удаления камней при очистке сельскохозяйственных угодий, гидротехническом строительстве и др. работах.
КАМЕНЯЎБОРАЧНЫЯ МАШЫНЫ - машыны для выдалення камянёў пры ачыстцы сельскагаспадарчых угоддзяў, гідратэхнічным будаўніцтве і іншых работах.

КАНАЛОКОПАТЕЛЬ - машина для прокладки осушительных и оросительных каналов, траншей, кюветов.
КАНАЛАКАПАЛЬНІК - машына для пракладкі асушальных і арашальных каналаў, траншэй, кюветаў.

КАНАТ - гибкое изделие, изготовленное из стальной проволоки, нитей, пряжи из волокон растительного, синтетического или минерального происхождения.
КАНАТ - гібкі выраб, зроблены з стальнога дроту, ніток, пражы з валокнаў расліннага, сінтэтычнага або мінеральнага паходжання.

КАПОТИРОВАНИЕ - один из приемов композиционного решения формы машин и оборудования, состоящий в том, что внутреннее техническое устройство заключается в оболочку (кожух, капот), которая упрощает внешние очертания изделия.
КАПАТАВАННЕ - адзін з прыёмаў кампазіцыйнага рашэння формы машын і абсталявання, які заключаецца ў тым, што ўнутранае тэхнічнае ўстройства змяшчаецца ў абалонку (кажух, капот), якая спрашчае вонкавыя абрысы вырабу.

КАРБЮРАТОР - прибор двигателя внутреннего сгорания с внешним смесеобразованием, работающий на легком жидком топливе (бензин, керосин). Обеспечивает необходимое соотношение между топливом и воздухом в горючей смеси.
КАРБЮРАТАР - прыбор рухавіка ўнутранага згарання з вонкавым сумесеўтварэннем, які працуе на лёгкім вадкім паліве (бензін, газа). Забяспечвае неабходныя суадносіны паміж палівам і паветрам у гаручай сумесі.



КАРБЮРАТОРНЫЙ ДВИГАТЕЛЬ - двигатель внутреннего сгорания, в котором горючая смесь приготовляется карбюратором вне камеры сгорания и воспламеняется в камере сгорания свечой зажигания.
КАРБЮРАТАРНЫ РУХАВІК - рухавік унутранага згарання, у якім гаручая сумесь рыхтуецца карбюратарам па-за камерай згарання і запальваецца ў камеры згарання запальнай свечкай.

КАРДАННЫЙ МЕХАНИЗМ (от имени итальянского математика и врача Дж.Кардано) - шарнирный механизм, обеспечивающий вращение двух валов под переменным углом благодаря подвижному соединению звеньев. Последовательное соединение двух карданных механизмов называется карданной передачей. Применяются в автомобилях, тракторах, с.-х. машинах.
КАРДАННЫ МЕХАНІЗМ (ад імя італьянскага матэматыка і ўрача Дж. Кардана) - шарнірны механізм, які забяспечвае вярчэнне двух валоў пад пераменным вуглом дзякуючы рухомаму злучэнню звёнаў. Паслядоўнае злучэнне двух карданных механізмаў называецца карданнай перадачай. Выкарыстоўваюцца ў аўтамабілях, трактарах, с.-г. машынах.

КАРЕТКА - узел машины или механизма, который обычно передвигается по направляющим. В двигателях гусеничных машин установлена балансирная каретка с опорными катками.
КАРЭТКА - вузел машыны або механізма, які звычайна перамяшчаецца па направляючай. У рухачах гусенічных машын устаноўлена балансірная карэтка з апорнымі каткамі.

КАРКАС - остов, скелет какого-либо изделия, сооружения, состоящий из отдельных скрепленных между собой стержней, балок и др.
КАРКАС - касцяк, шкілет якога-небудзь вырабу, збудавання, які складаецца з асобных змацаваных паміж сабой стрыжняў, балак і г.д.

КАРТЕР - неподвижная деталь машин или механизмов (двигателей, редукторов, насосов) обычно коробчатого сечения, служащая опорой для рабочих органов и защищающая машину или механизм от загрязнений. Нижняя часть (поддон) используется как резервуар для смазочного масла.
КАРТЭР - нерухомая дэталь машын або механізмаў (рухавікоў, рэдуктараў, помпаў) звычайна каробчатага сячэння, якая служыць апорай для рабочых органаў і засцерагае машыну або механізм ад забруджвання. Ніжняя частка (паддон) выкарыстоўваецца як рэзервуар для змазачнага масла.

КАРТОФЕЛЕКОПАТЕЛЬ (КТН-2В, КСТ-1, 4А) - с.-х. машина для выкапывания картофеля, сепарации почвы, частичного отделения клубней от ботвы и укладки их на поверхность поля.
БУЛЬБАКАПАЛКА (КТН-2В, КСТ-1, 4А) - с.-г. машына для выкопвання бульбы, сепарацыі глебы, частковага аддзялення клубняў ад батвы і ўкладкі іх на паверхню поля.

КАРТОФЕЛЕСАЖАЛКА (КСМ-4А) - с.-х. машина для посадки клубней картофеля и одновременного внесения в борозды минеральных удобрений.
БУЛЬБАСАЖАЛКА (КСМ-4А) - с.-г. машына для пасадкі клубняў бульбы і адначасовага ўнясення ў барозны мінеральных угнаенняў.

КАТОФЕЛЕУБОРОЧНЫЙ КОМБАЙН (КПК-3, Е-686) - с.-х. машина для подкапывания грядок картофеля, отделения клубней от почвы, ботвы и др. примесей и сбора клубней в бункер.
БУЛЬБАЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН (КПК-3, Е-686) - с.-г. машына для падкопвання градак бульбы, аддзялення клубняў ад глебы, батвы і іншых прымесяў і збору клубняў у бункер.

КАТОК (ЗККШ-6, КЗК-10) -с.-х. орудие для разбивки комьев почвы после пахоты, выравнивания поверхности вспаханного поля, весеннего укатывания многолетних сеяных трав, предпосевного или послепосевного уплотнения почвы и разрушения её корки.
КАТОК (ЗККШ-6, КЗК-10) - с.-г. прылада для разбіўкі камякоў глебы пасля ворыва, выраўноўвання паверхні ўзаранага поля, веснавога ўезджвання шматгадовых сеяных траў, перадпасяўнога або пасляпасяўнога зацвярдзення глебы і разбурэння яе скарынкі.

КИНЕМАТИЧЕСКАЯ СХЕМА - схема, на которой с помощью условных обозначений изображаются звенья механизмов с указанием параметров, необходимых для кинематического анализа.
КІНЕМАТЫЧНАЯ СХЕМА - схема, на якой з дапамогай умоўных адзнакаў паказваюцца звенні механізмаў з указанием параметраў, неабходных для кінематычнага аналізу.

КИПЯЩИЙ СЛОЙ, ПСЕВДООЖИЖЕННЫЙ СЛОЙ - состояние слоя зернового вороха, при котором под влиянием проходящего через него потока воздуха частицы вороха интенсивно перемещаются одна относительно другой. В этом состоянии слой напоминает кипящую жидкость, приобретая некоторые её свойства.
КІПЯЧЫ СЛОЙ, ПСЕЎДААЖЫЖАНЫ СЛОЙ - стан слою зерневай кучы, пры якім пад уплывам патоку паветра, што праходзіць праз яго, часцінкі кучы інтэнсіўна перамяшчаюцца адна адносна другой. У гэтым стане слой нагадвае вадкасць, якая кіпіць і набывае некаторыя яе ўласцівасці.

КЛАПАН - деталь или устройство для управления расходом газа, пара или жидкости в машинах и трубопроводах изменением площади проходного сечения. Применяют для предотвращения обратного потока жидкости (обратные клапаны), для частичного выпуска газа, пара или жидкости при повышении давления сверх установленного (предохранительные клапаны), для понижения давления и поддержания его постоянным (редукционные клапаны).
КЛАПАН - дэталь або ўстройства для кіравання расходам газу, пары альбо вадкасці ў машынах і трубаправодах шляхам змены плошчы прахаднога сячэння. Прымяняюць для прадухілення адваротнага патоку вадкасці (адваротныя клапаны), для частковага выпуску газа, пары або вадкасці пры павышэнні ціску звыш вызначанага (засцерагальныя клапаны), для паніжэння ціску і падтрымання яго нязменным (рэдукцыйныя клапаны).

КЛИН - простейшее орудие, имеющее одну или две рабочие грани в виде наклонных плоскостей.
КЛІН - прасцейшая прылада, якая мае адну або дзве рабочыя грані ў выглядзе нахіленых пласкасцей.

КЛИНОВОЙ РЕМЕНЬ - ремень трапециевидного сечения, применяемый в клиноременной передаче.



КЛІНАВЫ ПАС - пас трапецападобнага сячэння, які прымяняюць у клінапасавай перадачы.

КОВШ - рабочий орган землеройной и подъёмно-транспортной машины для захвата-отделения части материала (грунта, зерна) от массива и переноса его к месту разгрузки.
КОЎШ - рабочы орган землярыйнай і пад"ёмна-транспартнай машыны для захвату-аддзялення часткі матэрыялу (грунту, зерня) ад масіву і пераносу яго да месца разгрузкі.

КОВШОВЫЙ КОНВЕЙЕР - конвейер, транспортирующий орган которого представляет собой ряд ковшей, подвешенных к тяговой цепи.
КАЎШОВЫ КАНВЕЕР - канвеер, транспартыруючы орган якога ўяўляе сабой шэраг каўшоў, якія падвешаны да цягавага ланцуга.

КОВШОВЫЙ ЭЛЕВАТОР - машина непрерывного действия для подъёма сыпучих грузов в ковшах, прикрепленных к движущейся ленте или цепи.
КАЎШОВЫ ЭЛЕВАТАР - машына бесперапыннага дзеяння для падымання сыпкіх грузаў у каўшах, прымацаваных да ленты, якая рухаецца, або ланцугу.

КОЖУХ - наружная оболочка (футляр, капот) машины, прибора, механизма, которой придают гладкие, часто обтекаемые формы.
КАЖУХ вонкавая абалонка (футарал, капот) машыны, прыбора, механізма, якой надаюць гладкія, часта абцякальныя формы.

КОЛЕНЧАТЫЙ ВАЛ - вращающееся звено кривошипного механизма, состоящее из нескольких соосных коренных шеек, опирающихся на подшипники, и одного или нескольких колен, каждое из которых составлено из двух щек и одной шейки, соединенной с шатуном.
КАЛЕНЧАТЫ ВАЛ - самавярчальнае звяно крывашыпнага механізму, якое складаецца з некалькіх сувосевых карэнных шыяк, што абапіраюцца на падшыпнікі, і аднаго або некалькіх кален, кожнае з якіх састаўлена з дзвюх шчок і адной шыйкі, злучанай з шатуном.

КОЛЕСНАЯ ФОРМУЛА - условная характеристика ходовой части автомобиля, трактора, в которой первая цифра соответствует общему числу колес, а вторая - числу ведущих (например, МТЗ-80-4х2, МТЗ-82-4х4).
КОЛАВАЯ ФОРМУЛА - умоўная характарыстыка хадавой часткі аўтамабіля, трактара, у якой першая лічба адпавядае агульнай колькасці колаў, а другая - лічбе вядучых (напрыклад, МТЗ-80-4х2, МТЗ-82-4х4).

КОЛЕСО - деталь многих машин; имеет форму диска или обода со спицами; основное средство передачи и преобразования вращательного движения.
КОЛА - дэталь многіх машын; мае форму дыска або вобада са спіцамі; асноўны сродак перадачы і пераўтварэння вярчальнага руху.

КОЛЕЯ АВТОМОБИЛЯ, ТРАКТОРА - расстояние между колесами каждой оси транспортного средства.
КАЛЯІНА АЎТАМАБІЛЯ, ТРАКТАРА - адлегласць паміж коламі кожнай восі транспартнага сродку.

КОМБАЙН - сложный агрегат, представляющий собой совокупность рабочих машин, одновременно выполняющих несколько разнохарактерных операций.

КАМБАЙН - складаны агрэгат, які ўяўляе сабой сукупнасць рабочых машын, што адначасова выконваюць некалькі рознахарактарных аперацый.

КОМБИНИРОВАННАЯ СЕЯЛКА (СЗ-3, 6А, СЗТ-3, 6А) - с.-х. машина для одновременного высева и заделки в почву семян и минеральных удобрений (например, зерно-туковая сеялка) или семян зерновых культур, трав и удобрений (зерно-травяная сеялка).

КАМБІНАВАНАЯ СЕЯЛКА (СЗ-3, 6А, СЗГ-3,6А) - с.-г. машына для адначасовага высеву і заладкі ў глебу насення і мінеральных угнаенняў (напрыклад, зерне-тукавая сеялка) або насення збожжавых культур, траў і ўгнаенняў (зерне-травяная сеялка).

КОМБИНИРОВАННЫЙ АГРЕГАТ (РВК-3,6) - машина, снабженная несколькими рабочими органами и выполняющая за один проход одновременно несколько технологических операций (рыхлит, выравнивает и прикатывает поле).

КАМБІНАВАНЫ АГРЭГАТ (РВК-3,6) - машына, якая забяспечана некалькімі рабочымі органамі. За адзін праход выконвае адначасова некалькі тэхналагічных аперацый (рыхлюе, выраўноўвае і прыкачвае поле).

КОМПЛЕКСНАЯ АВТОМАТИЗАЦИЯ - этап автоматизации производства, при котором весь комплекс операций производственного процесса, включая транспортирование и контроль продукции, осуществляется системой автоматических машин и технологических агрегатов по заранее заданным программам и режимам с помощью различных автоматических устройств, объединенных общей системой управления.

КОМПЛЕКСНАЯ АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ-этап аўтаматызацыі вытворчасці, пры якім увесь комплекс аперацый вытворчага працэсу, уключаючы транспартаванне і кантроль прадукцыі ажыццяўляецца сістэмай аўтаматычных машын і тэхналагічных агрэгатаў па загадзя зададзеным праграмам і рэжымам з дапамогай розных аўтаматычных прыладаў, аб"яднаных агульнай сістэмай кіравання.

КОМПЛЕКСНАЯ МЕХАНИЗАЦИЯ - применение машин и механизмов для всех основных и вспомогательных работ, выполняемых в ходе производственного процесса.

КОМПЛЕКСНАЯ МЕХАНІЗАЦЫЯ - скарыстанне машын і механізмаў для ўсіх асноўных і дапаможных работ, якія выконваюцца ў ходзе вытворчага працэсу.

КОМПОНОВКА - взаимное расположение различных элементов машины, устанавливаемое на основе закономерностей и приемов художественной композиции с учетом технико-экономических и потребительских требований.

КАМПАНОЎКА - узаемнае размяшчэнне розных элементаў машыны, якое вызначаецца на аснове заканамернасцей і спажывецкіх патрабаванняў.

КОМПРЕССИЯ - силовое воздействие на газообразное вещество, приводящее к уменьшению занимаемого им объема, а также к повышению давления и температуры. Осуществляется в компрессорах и двигателях внутреннего сгорания.



КАМПРЭСІЯ - сілавое ўздзеянне на газападобнае рэчыва, якое прыводзіць да памяншэння займаемага ім аб"ёму, а таксама да павышэння ціску і тэмпературы. Ажыццяўляецца ў кампрэсарах і рухавіках унутранага згарання.

КОМПРЕССОМЕТР - прибор для измерения давления рабочей смеси в конце такта сжатия в цилиндре двигателя внутреннего сгорания.

КАМПРЭСАМЕТР - прыбор для вымярання ціску рабочай сумесі ў канцы такту сціскання ў цыліндры рухавіка ўнутранага згарання.

КОМПРЕССОР - машина для сжатия воздуха до избыточного давления не ниже О,О15 МПа.

КАМПРЭСАР - машына для сціскання паветра да залішняга ціску не ніжэй О,О15 МПа.

КОНВЕЙЕР, ТРАНСПОРТЕР - машина непрерывного действия для перемещения сыпучих, кусковых и штучных грузов.

КАНВЕЕР, ТРАНСПАРЦЁР - машына бесперапыннага дзеяння для перамяшчэння сыпучых, кускавых і штучных грузаў.

КОНДИЦИОНЕР - агрегат для обработки и перемещения воздуха в системах кондиционирования воздуха.

КАНДЫЦЫЯНЕР - агрэгат для апрацоўкі і перамяшчэння паветра ў сістэмах кандыцыяніравания паветра.

КОНДИЦИОНИРОВАНИЕ ВОЗДУХА - создание и автоматическое поддержание в закрытых помещениях, кабинах тракторов, комбайнов температуры, относительной влажности, чистоты, состава, скорости движения воздуха, наиболее благоприятных для самочувствия людей или ведения технологических процессов, работы оборудования и приборов.

КАНДЫЦЫЯНІРАВАННЕ ПАВЕТРА - стварэнне і аўтаматычнае падтрыманне ў зачыненых памяшканнях, кабінах трактароў, камбайнаў тэмпературы, адноснай вільгатнасці, чысціні, саставу, хуткасці руху паветра, найбольш спрыяльных для самаадчування людзей ці вядзення тэхналагічных працэсаў, работы абсталявання і прыбораў.

КОНОПЛЕУБОРОЧНЫЙ КОМБАЙН (ККУ-1,9) - с.-х. машина для скашивания семенной конопли с одновременным обмолотом семенников и связывания обмолоченных стеблей в снопы.

КАНОПЛЕЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН (ККУ-1,9) - с.- г. машына для скошвання насенных канапель з адначасовай малацьбой насеннікаў і звязвання абмалочаных сцяблоў у снапы.

КОНСЕРВАЦИЯ МАШИН - комплекс технических мероприятий, обеспечивающих исправность машин при длительном их хранении. Осуществляется путём нанесения защитной пленки.

КАНСЕРВАЦЫЯ МАШЫН - комплекс тэхнічных мерапрыемстваў, якія забяспечваюць спраўнасць машын пры працяглым іх захоўванні. Ажыццяўляецца шляхам нанясення ахоўнай плеўкі.

КОНСИСТЕНТНЫЕ СМАЗКИ - высоковязкие мази (литол, солидол), применяющиеся для смазывания трущихся соединений механизмов,когда непрерывная подача жидкой смазки невозможна.

КАНСІСТЭНТНЫЯ ЗМАЗКІ - высокавязкія мазі (літол, салідол), якія скарыстоўваюцца для змазвання злучэнняў механізмаў, што труцца, калі бесперапынная падача вадкай змазкі немагчыма.

КОНСТРУКТОРСКАЯ ДОКУМЕНТАЦИЯ - графические и текстовые документы, которые содержат данные о машинах, необходимые для их разработки, изготовления, контроля, приемки, эксплуатации и ремонта. Виды и комплектность установлены стандартом, правила оформления приведены в Единой системе конструкторской документации (ЕСКД).

КАНСТРУКТАРСКАЯ ДАКУМЕНТАЦЫЯ - графічныя і тэкставыя дакументы, якія змяшчаюць даныя аб машынах, неабходныя для іх распрацоўкі, вырабу, кантролю, прыёмкі, эксплуатацыі і рамонту. Віды і камплектнасць устаноўлены стандартам, правілы афармлення прыведзены ў Адзінай сістэме канструктарскай дакументацыі (ЕСКД).

КОНТЕЙНЕР - съемное приспособление для перевозки грузов различными видами транспорта без перегрузки находящихся в нем грузов до склада получателя.

КАНТЭЙНЕР - здымнае прыстасаванне для перавозу грузаў рознымі відамі транспарта без перагружвання грузаў, якія знаходзяцца ў ім да склада атрымальніка.

КОНТРГАЙКА - гайка, навинчиваемая на болт или шпильку в дополнение к основной гайке для предупреждения самоотвинчивания.

КОНТРГАЙКА - гайка, якая накручваецца на болт або шпільку ў дапаўненне да асноўнай гайкі для папярэджвання самаадкручвання.

КОПНОВОЗ (КУН-10) - с.-х. машина транспортирования копен сена и соломы к месту скирдования.

КАПАВОЗ (КУН-10) - с.-г. машына для транспартавання кап сена і саломы да месца сціртавання.

КОРМОУБОРОЧНЫЙ КОМБАЙН (КСК-100А, Е-282) - с.-х. машина для скашивания или подбора из валков с одновременным измельчением трав, кукурузы, используемых для приготовления сенажа, травяной муки, силоса и на зеленый корм.

КАРМАЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН (КСК-100А, Е-282) - с.-г. машына для скошвання або надбору з валкоў з адначасовым драбненнем траў, кукурузы, якія выкарыстоўваюцца для падрыхтоўкі сенажу, травяной мукі і як зялёны корм.

КОРНЕУБОРОЧНАЯ МАШИНА (КС-6В, РКМ-6-03, МКК-6) - с.-х. машина для уборки корней сахарной или кормовой свеклы.

КАРАНЯЎБОРАЧНАЯ МАШЫНА (КС-6В, РКМ-6-03, МКК-6) - с.-г. машына для ўборкі каранёў цукровых або кармавых буракоў.

КОРОБКА ПЕРЕДАЧ - многозвенный механизм, в котором ступенчатое изменение передаточного отношения осуществляется при переключении зубчатых передач, размещенных в отдельном корпусе (коробке).

КАРОБКА ПЕРАДАЧ - многазвенны механізм, у якім ступенчатая змена перадатачных адносін ажыццяўляецца пры пераключэнні зубчастых перадач, якія размешчаны у асобным корпусе (каробцы).



КОРОБКА СКОРОСТЕЙ - многозвенный механизм, предназначенный для изменения частоты вращения вала при постоянной частоте вращения ведущего путем изменения передаточного отношения.

КАРОБКА СКОРАСЦЕЙ - многазвенны механізм, прызначаны для змены частаты вярчэння вала пры пастаяннай частаце вярчэння вядучага шляхам змены перадатачных адносін.

КОРОМЫСЛО - звено рычажного механизма, деталь в виде двуплечего рычага, который может совершать только неполный оборот вокруг неподвижной оси.

КАРОМЫСЕЛ - звяно рычажнага механізму, дэталь у выглядзе двухплечага рычагу, які можа рабіць толькі няпоўны абарот вакол нерухомай восі.

КОРПУС - часть машины, обычно служащая её основанием и несущая все основные механизмы.

КОРПУС - частка машыны, якая звычайна служыць яе асновай і нясе ўсе асноўныя механізмы.

КОРРОЗИЯ - разрушение металлов вследствие взаимодействия их с внешней средой.

КАРОЗІЯ - разбурэнне металаў з прычыны ўзаемадзеяння іх з навакольным асяроддзем.

КОРЧЕВАЛЬНЫЕ МАШИНЫ (МП-7А, МТП-26) - машины для корчевания пней и деревьев, удаления камней при мелиоративных работах, на строительстве дорог.

КАРЧАВАЛЬНЫЯ МАШЫНЫ (МП-7А, МТП-26) - машыны для карчавання пнёў і дрэваў, вымання камянёў пры меліярацыйных работах, на будаўніцтве дарог.

КОСИЛКА (КС-Ф-2, 1Б, КРД-2,4) - с.-х. машина для скашивания трав.

КАСІЛКА (КС-Ф-2, 1Б, КРД-2,4) - с.-г. машына для скошвання траў.

КОСИЛКА-ИЗМЕЛЬЧИТЕЛЬ (КИР-1,5Б) - с.-х. машина для скашивания, одновременного измельчения и погрузки измельченной массы в бункер.

КАСІЛКА-ДРАБНІЦЕЛЬ (КІР-1,5Б) - с.-г. машына для скошвання, адначасовага драбнення і пагрузкі здробленай масы ў бункер.

КОСИЛКА-ПЛЮЩИЛКА (КПС-5Б, КПРН-3, Е-303) - с.-х. машина для скашивания и расплющивания стеблей трав с целью ускорения сушки.

КАСІЛКА-ПЛЮШЧЫЛКА (КПС-5Б, КПРН-3, Е-303) - с.-г. машына для скошвання і расплюшчвання сцяблоў траў з мэтай паскарэння сушэння.

КОЭФФИЦИЕНТ ГОТОВНОСТИ - показатель надежности машин, характеризующий вероятность того, что машина будет работоспособна в произвольно выбранный момент времени в промежутках между выполнениями планового технического обслуживания.

КАЭФІЦЫЕНТ ГАТОЎНАСЦІ - паказчык надзейнасці машын, які характаразуе верагоднасць таго, што машына будзе працаздольна ў адвольна выбраны момант часу ў прамежках паміж выкананнямі планавага тэхнічнага абслугоўвання.

КРАЗ - марка грузовых автомобилей и тягачей, выпускаемых с 1959 г. Кременчугским автомобильным заводом.
КРАЗ - марка грузавых аўтамабіляў і цягачоў, якія выпускаюцца з 1959г. Крамянчугскім аўтамабільным заводам.

КРАН - запорное устройство, в котором подвижная деталь затвора имеет форму тела вращения с отверстием для пропускания потока и при его перекрытии вращается вокруг своей оси, перпендикулярной к направлению потока.
КРАН - запорнае ўстройства, ў якім рухомая дэталь засоўкі мае форму цела вярчэння з адтулінай для прапускання патоку і пры яго перакрыцці круціцца вакол сваёй восі, перпендыкулярнай да напрамку патоку.

КРЕПЕЖНЫЕ ДЕТАЛИ - детали (болты,винты, шпильки, гайки, заклепки, шпонки и т.п.) для жесткого скрепления элементов машин.
КРАПЁЖНЫЯ ДЭТАЛІ - дэталі (балты, вінты, шпількі, гайкі, заклёпкі, шпонкі і г.д.) для цвёрдага замацавання элементаў машын.

КРИВОШИП - звено кривошипного механизма, совершающее полный оборот вокруг неподвижной оси.
КРЫВАШЫП - звяно крывашыпнага механізма, якое робіць поўны абарот вакол нерухомай восі.

КРОНШТЕЙН - консольная опорная деталь для крепления частей машин.
КРАНШТЭЙН - кансольная апорная дэталь для мацавання частак машын.

КУДЕЛЕПРИГОТОВИТЕЛЬНАЯ МАШИНА - стационарная машина для очистки от костры волокнистых отходов, образующихся при обработке льняной тресты на льнотрепальной машине.
КУДЗЕЛЯПАДРЫХТОЎЧАЯ МАШЫНА - стацыянарная машына для ачысткі ад кастрыцы валакністых адходаў, якія ўзнікаюць пры апрацоўцы льняной трасты на льнотрапальнай машыне.

КУКУРУЗОУБОРОЧНЫЙ КОМБАЙН (КСКУ-6 "ХЕРСОНЕЦ-200", ККП-3 "ХЕРСОНЕЦ-9") - с.-х. машина для уборки кукурузы на зерно с отрывом початков от стеблей, очистки их от оберток и измельчения листо-стебельной массы.
КУКУРУЗАЎБОРАЧНЫ КАМБАЙН (КСКУ-6 "ХЕРСОНЕЦ-200", ККП-3 "ХЕРСОНЕЦ-9") - с.-г. машына для ўборкі кукурузы на зерне з адрывам пачаткаў ад сцябла, ачысткі іх ад абгорткаў і драбнення ліста-сцябловай масы.

КУЛЬТИВАТОР - с.-х. орудие для рыхления почвы и уничтожения сорняков. Бывают для сплошной обработки почвы (КШУ-12), культиваторы-плоскорезы (КПШ-5, КПШ-9), пропашные культиваторы (КОР-4,2, КРН-4,2Г).
КУЛЬТЫВАТАР - с.-г. прылада для рыхлення глебы і знішчэння пустазелля. Бываюць для суцэльнай апрацоўкі глебы (КШУ-12), культыватары-пласкарэзы (КПШ-5, КПШ-9), прапашныя культыватары (КОР-4,2, КРН-4,2г).

КУЛЬТИВАТОР-ОКУЧНИК (КОН-2,8А, КНО-4,2) - с.-х. орудие для междурядной обработки, подкормки и окучивания картофеля.
КУЛЬТЫВАТАР-АКУЧНІК (КОН-2,8А, КНО-4,2) - с.-г. прылада для міжрадковай апрацоўкі, падкармлівания і акучвання бульбы.



КУСТАРНИКОВО-БОЛОТНЫЙ ПЛУГ (ПБН-100А) - с.-х. орудие для вспашки болотных торфяных и минеральных почв, покрытых низким кустарником.
КУСТОВА-БАЛОТНЫ ПЛУГ (ПБН-100А) - с.-г. прылада для ўзворвання балотных тарфяных і мінеральных глеб, якія накрыты нізкім кустоўем.

КУСТОРЕЗ (ДП-24) - навесное тракторное орудие для срезания кустарников и мелколесья при мелиоративном строительстве.
КУСТАРЭЗ (ДП-24) - навесная трактарная прылада для зразання кустоўя і драбналесся пры меліярацыйным будаўніцтве.

ЛАПА КУЛЬТИВАТОРА - рабочий орган для поверхностной обработки почвы и уничтожения сорных растений. Бывают полольные, рыхлительные, универсальные и др.
ЛАПА КУЛЬТЫВАТАРА - рабочы орган для паверхневай апрацоўкі глебы і знішчэння пустазелля. Бываюць палольныя, рыхліцельныя, універсальныя і інш.

ЛЕБЁДКА - грузоподъёмная машина для перемещения грузов посредством движущегося гибкого элемента - каната или цепи.
ЛЯБЁДКА - грузапад"ёмная машына для перамяшчэння грузаў пры дапамозе гібкага элемента, які рухаецца (каната або ланцуга).

ЛЕМЕХ - рабочая часть корпуса плуга, которая служит для подрезания пласта почвы, его подъёма и направления на отвал.
ЛЯМЕШ - рабочая частка корпуса плуга, якая служыць для падразання пласта глебы, яго пад"ёму і накіравання на акладню.

ЛЕНТОЧНЫЙ КОНВЕЙЕР - конвейер, у которого грузонесущим и одновременно тяговым органом является гибкая лента из прорезиненной ткани.
СТУЖАЧНЫ КАНВЕЕР - канвеер, у якога грузанясучым і адначасова цягавым органам з"яўляецца гібкая стужка з прарызіненай тканіны.

ЛИТОЛ - пластичная антифрикционная водостойкая смазка, состоящая из нефтяного масла, загущенного литиевой солью.
ЛІТОЛ - пластычная антыфрыкцыйная водаўстойлівая змазка, якая складаецца з нафтавага масла, загушчанага літневай соллю.

ЛИТРАЖ ДВИГАТЕЛЯ - суммарный рабочий объём всех цилиндров двигателя внутреннего сгорания.
ЛІТРАЖ РУХАВІКА - сумарны рабочы аб"ём усіх цыліндраў рухавіка ўнутранага згарання.

ЛИЦЕНЗИЯ - разрешение на использование изобретения или иного научно-технического достижения.
ЛІЦЭНЗІЯ - дазвол на выкарыстанне вынаходніцтва або іншага навукова-тэхнічнага дасягнення.

ЛОНЖЕРОН - продольная балка рамы автомобиля, имеющая корытообразное сечение, увеличенное в местах, подверженных наибольшим нагрузкам.
ЛАНЖЭРОН - падоўжная бэлька рамы аўтамабіля, якая мае карытападобнае сячэнне, павялічанае ў месцах, што падпадаюць пад найбольшыя нагрузкі.

